# Бацькаўшчына

ЦАНА 50 Н. ФЭН. — PREIS 50 Pf.

ВОРГАН БЕЛАРУСКАЙ НАЦЫЯНАЛЬНА-ВЫЗВОЛЬНАЙ ДУМКІ

DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „BAČKAUŠČYNA“ („VATERLAND“)

Herausgeber: Wladimir BORTNIK

Postadresse: Die Weissruthenische Zeitung „Baćkaušćyna“ („Das Vaterland“), (13 b) München 19, Schliessfach 69.

Druck. „LOGOS“, Buchdruckerei u. Verl., G.m.b.H., München 19, Bothmerstr. 14

**Цана:** **Нямеччына** (іншыя эўрапэйскія краіны бяз Францыі й паўдзён-наамэрыканскія краіны»: год — 25 н. м.; паўгода — 12,5 н. м.; **ЗША й Канада:** год — 13 дал.; паўгода — 6,5 дал.; **Ангельшчына й Аўстралія:** год — 60 шыл.; паўгода — 30 шыл.; **Францыя:** год — 25 н. ф.; паўгода — 12,5 н. ф. **Перасылка лётніцкай поштай у ЗША й Канаду каштуе падвойна, у Аўстралію й краіны Паўднёвай Амэрыкі — патройна. Падвойныя нумары каштуюць падвойна.**

Банковае конто: Zeitung „Baćkaušćyna“, Konto Nr. 357-125, Bay. Hypotheken- u. Wechselbank, München.

LE JOURNAL BIELORUSSIEN „LA PATRIE“ | DIE WEISSRUTHENISCHE ZEITUNG „DAS VATERLAND“ | THE BELORUSSIAN NEWSPAPER „THE FATHERLAND“

№ 9 (593) — Мюнхэн, Нядзеля 20-га травеня 1962 г. — München, Samstag, 20 Mai — ГОД ВЫДАНЬНЯ 16

# Пра народазабойства ў СССР

У савецкім друку мы часта сустракаемся з наступнымі цьверджаньнямі: а) «Капіталізм спрычыніўся да ўзьнікненьня нацыяў і нацыянальных розьніцаў»; б) «Марксізм у пяршыню паставіў на навуковы грунт вырашэньне нацыянальнага пытаньня, паказаў, што яно зьяўляецца толькі часткай больш агульнага й галоўнага пытаньня ліквідацыі капіталістычнага ладу й заваёвы ўлады працоўнай клясай»; в) «У Савецкім Саюзе вырашана нацыянальная праблема, скончана раз і назаўсёды з усякімі формамі нацыянальнага прыгнечаньня».

Такімі цьверджаньнямі пачынаецца любая праца савецкіх ідэялёгаў пра нацыянальнае пытаньне ў СССР. Гэтыя цьверджаньні трапілі, бязумоўна, і ў новую Праграму КПСС. Такімі цьверджаньнямі раськідаўся направа й налева Хрушчоў на сэсіях Генэральнай Асамблеі Задзіночаных Нацыяў. Такімі цьверджаньнямі пачынаецца таксама й артыкул Э. Тадзевасяна, зьмешчаны ў часапісе «Преподавание истории в школе» (№ 2, 1962) і прызначаны для ўзгадаваньня савецкіх школьнікаў.

Ня будзем спрачацца, хто й што спрычыніліся да ўзьнікненьня нацыяў, зазначым толькі, што гэтыя нацыі перажылі савецкі сацыялізм ды ня думаюць адміраць і пры «камунізьме», пра што сьветчаць хоць-бы такія супрацьлегласьці: СССР-Югаславія; СССР-Альбанія; СССР-Кітай і г. д.

Тое, на што тут мы хацелі-б зьвярнуць увагу, зьяўляецца наступным.

Як ведама, ад некаторага часу ў СССР праводзіцца палітыка шалёнай моўнай русыфікацыі нерасейскіх народаў і зьмешваньня нацыянальнага складу насельніцтва савецкіх нацыянальных рэспублікаў. Каб захаваць запраўднае аблічча гэтай барбарскай палітыкі Масквы, савецкая прапаганда намагаецца апраўдаць яе зусім іншымі прычынамі. Пайменна яна цьвердзіць, што авалоданьне нерасейскімі народамі расейскай мовай дыктуецца неабходнасьцяй палітыка-эканамічнага сужыцьця падсавецкіх народаў, дакладней — нутранымі зносінамі. Веданьне расейскай мовы аблягчае быццам-бы супрацоўніцтва й паразуменьне між шматлікімі народамі Савецкага Саюзу. З другога боку палітыка штучнага зьмешваньня падсавецкіх народаў паясьнялася так званым «супольным закладам базы камунізму», бо дасюль зьмешваньне ў больш станоўчых памерах адбывалася шляхам зганяньня рабоў розных нацыянальнасьцяў на так званыя «новабудоўлі камунізму» ці на асваеньне цалінных земляў. Напрыклад, нафтабуд у Полацку, які свабодна мог-бы збудавацца беларускімі працоўнымі сіламі, будуецца прадстаўнікамі дзясяткаў розных народаў. Такое паясьненьне ці апраўданьне знайшло месца таксама й у новай Праграме КПСС.

Аднак, з гледзішча на ўзмоцненае змаганьне з так званымі «праявамі буржуазнага нацыяналізму» ў васяродзьдзі нерасейскіх народаў, гэтая маскоўская прапаганда часамі прыадкрывае сваю брудную заслону. Цяпер у многіх выпадках гаворыцца адкрыта, што практыка з «новабудоўлямі камунізму» ськівавана выключна на дэнацыяналізацыю й русыфікацыю падсавецкіх народаў, асабліва моладзі. У сувязі з гэтым уводзіцца таксама практыка ўсё большага перамешваньня студэнцкай і навет школьнай моладзі. У новай Праграме КПСС, як ведама, было выказана «пажаданьне» ў справе «абмену кадрамі» між рэспублікамі. Гэты «абмен» таксама разглядаўся з пункту гледжаньня «камуністычнага збліжэньня». Неўзабаве й апошняя палітыка навадненьня расейскім культурным і партыйна-адміністратыўным элемэнтам нацыянальных рэспублікаў вельмі адчулася ў жыцьці гэтых рэспублікаў. Успомнім хоць-бы праведзеную ў канцы мінулага году «нацыяналістычную» чыстку ў міністэрствах культуры й асьветы Латвійскай ССР, у якой зьляцелі з пасадаў ня толькі міністры й іхныя заступнікі, але й іншы пэрсанал. Гаварылася, што гэтая чыстка яшчэ поўнасьцяй не ажыцьцявілася й «трэба да канца выкараніць нацыяналістычную групоўку» («Советская Латвия», 23. 11. 1961). Крыху раней падобная чыстка захапіла Віленскі ўнівэрсытэт. Усё гэта цяпер выклікала моцны супраціў у савецкіх нацыянальных рэспубліках.

Што азначае гэты «абмен кадрамі», зьвернемся да паведамленьня вышэй названага Э. Тадзевасяна. Ён зазначае:

«Нацыяналістычная абмяжаванасьць перашкаджае, напрыклад, некаторым працаўнікам праўдзіва ацаніць прагрэсыўнае значэньне пашырэньня абмену кадрамі між нацыянальнымі рэспублікамі й паглыбленьня працэсу інтэрнацыяналізацыі складу іхнага насельніцтва».

У далейшым Э. Тадзевасян едзе на каньку «камуністычнага збліжэньня» падсавецкіх народаў, найбольшым ворагамчаго ён уважае «буржуазны нацыяналізм» нерасейскіх народаў, які, згодна Тадзевасяна, трэба выкараніць усялякімі магчымымі сяродкамі. У гэтым сваім прамаскоўскім экстазе ён і раскрывае чыстыя карты. Ён гаворыць, што трэба ўзмоцніць палітыку зьмешваньня падсавецкіх народаў і што трэба іх зьмешваць, выглядае, на расейскай аснове. Для яго існуе толькі «вялікая» расейская нацыя» й «вялікі расейскі народ», **у той час, як іншыя нацыі — гэта** «сьмяцьцё астаткаў буржуазнага нацыяналізму». Падсавецкія нацыі ідуць да хуткага **самазьліквідаваньня, чаму садзейнічае** «ленінская нацыянальная палітыка» Масквы, у тым ліку й палітыка заціраньня дзяржаўных межаў. На шляху гэтага стаяць яшчэ моўныя перашкоды, але й яны хутка будуць пераможаныя пры помачы зьліквідаваньня родных моваў і пераняцьця расейскай мовы.

Чаму-ж расейскай мовы? Таму, як зазначае Тадзевасян, што, «папершае, расейская мова зьяўляецца мовай вялікага расейскага народу — вядучай нацыі краіны. Расейская мова — гэта мова геніяльнага правадыра й настаўніка У. І. Леніна, мова народу слаўных рэвалюцыйных традыцыяў і багатай культуры. Падругое, на расейскай мове свабодна гаворыць абсалютная бальшыня насельніцтва краіны... Патрэйцяе, расейкая мова зьяўляецца найбольш разьвітай мовай у нашай краіне, багацьце якой усё ў большай ступені становіцца здабыткам нацыянальных моваў іншых народаў.»

Як ведама, гэта ня ёсьць прыватная думка нейкага Армяніна Э. Тадзевасяна. Ён змушаны сьпяваць у дадзеным выпадку пад агульную дудку маскоўскай нацыянальнай палітыкі. Аднак зьвернемся да галоўнага.

Напачатку нашага артыкулу мы прывялі «марксістоўскія» палажэньні пра нацыі й савецкае вырашэньне нацыянальнай праблемы. Што-ж з гэтага вынікае? Пайменна, што расейская нацыя не **падпарадкоўваецца** агульнаму закону гісторыі, які прапагуецца самой Масквой. Яна, аказваецца, можа перажыць ня толькі «сацыялізм», але й «камунізм». Зрэшты няма патрэбнасьці разважаць абстрактнымі катэгорыямі, калі маем жыцьцёвую рэальнасьць, што пахне вялікадзяржаўным шавінізмам.

У сувязі з гэтым хацелася-б зьвярнуць увагу нашых тут палітыкаў на эміграцыі, каб яны памножылі свае высілкі ў раскрыцьці маскоўскага азьвярэлага каляніялізму й паднялі гэтую праблему народазабойства ў СССР у Арганізацыі Задзіночаных Нацыяў.

**П. Залужны**

# Новае кіраўніцтва калгасамі й саўгасамі

На пленуме ЦК КПСС, што адбыўся 5-га сакавіка сёлета, Хрушчоў у сваім дакладзе спачатку пералічыў «дасягненьні» ў сельскай гаспадарцы, якія быццам былі пасьля верасьнёўскага пленуму ЦК партыі ў 1958 годзе. Хваляючыся гэтымі «дасягненьнямі», Хрушчоў такім парадкам падчыркнуў, што дасягненьні мелі месца толькі з таго часу, калі ён прыняў на сябе фактычную адказнасьць за стан сельскай гаспадаркі. Аднак перайшоўшы да ацэны выкананьня плянаў вытворчасьці й нарыхтовак збожжа, мяса й малака за 1961 год, Хрушчоў прымушаны быў сьцьвердзіць надзвычайна сумныя вынікі. Ён адцеміў, што тэмпы вытворчасьці й нарыхтовак сельскагаспадарскай прадукцыі не задавальняюць ужо патрэбаў насельніцтва.

Між тым, толькі некалькі месяцаў назад на XXII зьезьдзе камуністычнай партыі Хрушчоў пры зацьверджаньні новай праграмы партыі запэўніваў, што ўжо ў першым дзесяцігодзьдзі будаўніцтва камунізму ў галіне вытворчасьці асноўных прадуктаў сельскай гаспадаркі на душу насельніцтва Савецкі Саюз выперадзіць Задзіночаныя Штаты Амэрыкі. Хрушчоў на пленуме разгублена сказаў, што партыйнае кіраўніцтва вельмі добра ведае аб тым, што ў крамах няма асноўных прадуктаў дзеля задаваленьня працоўнага насельніцтва. Справа ў тым, сказаў Хрушчоў, «што мяса ў нас проста не хапае». Паводля цьверджаньня Хрушчова, сучаснае становішча патрабуе ў найкарацейшы тэрмін павялічыць вытворчасьць прадукцыі ў дватры разы ў параўнаньні з тым, што ўжо дасягнута. Хрушчоў адцеміў, што калі заданьне павялічэньня прадукцыі ня будзе разьвязанае, то «справе камунізму будзе нанесеная вялікая шкода».

Нявыкананьне плянаў вытворчасьці прадуктаў сельскай гаспадаркі за апошнія тры гады Хрушчоў на пленуме намагаўся абгрунтоўваць дзьвюмя прычынамі. Паводля ягонага цьверджаньня, травапольная сыстэма земляробства, якая існавала доўгія гады й была ўведзеная пры Сталіне, прынесла сельскай гаспадарцы асабліва шмат шкоды. Цяперака гэтая сыстэма асуджаная й выкінутая зь існуючых севазваротаў калгасаў і саўгасаў. Канюшына, люцэрна, цімафейка й іншыя травы будуць заволаны й замененыя пасевамі кукурузы, цукровымі буракамі на корм жывёле й бабовымі культурамі. Вось-жа гэтае пераківданьне із сыстэмы ў сыстэму ў першую чаргу затрымае разьвіцьцё жывёлагадоўлі ў Беларусі, Прыбалтыцы й іншых зонах зь вільготнымі глебамі, на якіх кармовыя травы даюць высокія ўраджаі.

У сваім дакладзе на пленуме Хрушчоў зганіў кіраўніцтва сельскай гаспадаркай, якое йснавала дагэтуль. Паводля ягонага цьверджаньня, агульнае кіраўніцтва калгасамі й саўгасамі ня здолее направіць тых надзвычайных хібаў у вытворчасьці і нарыхтоўках сельскагаспадарскай прадукцыі.

Пасьля заканчэньня пленуму ў цэлым Савецкім Саюзе была створаная новая сыстэма кіраўніцтва калгасамі й саўгасамі, якая цяпер мае ажыцьцяўляцца міжраённымі вытворчымі калгасна-саўгаснымі ўправамі. Пастановай ЦК КП Беларусі й Савету міністраў БССР на Беларусі створана 60 такіх вытворчых кіраўніцтваў. Гэтыя кіраўніцтвы падпарадкоўваюцца абласным камітэтам партыі, якія ачольваюцца першымі сакратарамі абкомаў. Беларускі рэспубліканскі камітэт сельскай гаспадаркі ачольвае сам першы сакратар ЦК камуністычнай партыі Беларусі Мазураў.

У бальшыні выпадкаў на кажнае вытворчае калгасна-саўгаснае кіраўніцтва прыпадаюць па два раёны. Кіраўніцтва фактычна ачольваецца дзьвюмя асобамі — начальнікам і парторгам. Апрача іх, у кіраўніцтве ёсьць некалькі спэцыялістых з розных галін сельскай гаспадаркі. Штодзённымі справамі калгасаў і саўгасаў беспасярэдня кіруе інспэктар-арганізатар, якому падпарадкаваны 3-4 гаспадаркі. Асноўным заданьнем новастворанай сыстэмы кіраўніцтва зьяўляецца ажыцьцяўленьне кантролі выкананьня пастановаў камуністычнай партыі й савецкага ўраду ў пытаньнях сельскай гаспадаркі. Гэтае галоўнае заданьне вытворчых кіраўніцтваў мае прымусіць усе калгасы й саўгасы за ўсякую цану выконваць пляны вытворчасьці й нарыхтовак збожжа, мяса, малака й іншых прадуктаў.

Новая сыстэма кіраўніцтва павінна будзе зьліквідаваць і так вельмі абмежаваную сельскагаспадарскую самастойнасьць калгасаў і саўгасаў. Новыя кіраўніцтвы будуць карыстацца неабмежаваным правам умешвацца ўва ўсе галі-

**(Заканчэньне на 2-ой бачыне)**

# Пад развагу прыяцелям і паўпрыяцелям

24 сакавіка, выступаючы ў Каліфорніі, прэзыдэнт Задзіночаных Штатаў Кэнэды выказаў свой пагляд на галоўныя рухаючыя сілы сучаснага сьвету й сфармуляваў сваё ўяўленьне пра найбольш ідэяльны спосаб будучага сужыцьця паміж народамі.

Тады прэзыдэнт Кэнэды заявіў, што, на ягоную думку, падзеі нашых дзён даказваюць, што людзтва ўсё больш аддаляецца ад камунізму і йдзе ў кірунку незалежнасьці й свабоды ўсіх народаў. Гаворачы аб будучыні, прэзыдэнт Кэнэды выступіў супраць камуністычнай «ураўнілаўкі» і ў вабарону разнастайнасьці культураў, іхнага гарманійнага разьвіцьця, бо, паводля ягонага перакананьня, толькі гэтая разнастайнасьць забясьпечыць прыгажосьць аблічча нашай плянэты.

Гэта прыгожыя словы й глыбокія думкі. Яны ўжо ад даўгога часу былі філязафічнай плятформай хрысьціянскага сьвету. Але асабліва прыемна, калі кіраўнік дзяржавы, ад якой найбольш залежыць будучыня, публічна заяўляе й падкрэсьлівае, што ён стаіць якраз на гэтых маральных пазыцыях.

Нажаль, палітыка дзяржаўных колаў Задзіночаных Штатаў не заўсёды прытрымліваецца гэтай маральнай базы. Адчуваецца брак пасьлядоўнасьці. Мала разумець імкненьні людзтва й верыць у іх. Пры існуючым цяпер палажэньні, калі над вялізарнай часткай сьвету пануюць сілы, якія гэтыя імкненьні здушваюць, трэба таксама даваць адпаведную падтрымку і для народаў гэтай часткі сьвету, каб яны маглі выйсьці на шлях іхнага натуральнага разьвіцьця.

Да беларускай эміграцыі ў вольным сьвеце часта даходзяць галасы з паняволенай Бацькаўшчыны з просьбай аб дапамозе. На ўвазе не матарыяльная, а якраз маральная й палітычная дапамога. Нам гавораць, што калі Захад не павядзе інтэнсыўнай палітыкі супраць расейскага імпэрыялізму, паняволеным народам з пункту гледжаньня нацыянальнага пагражае што раз больш цяжкая й змрочная будучыня. Абыякавасьць вольнага сьвету да лёсу гэтых народаў падрывае іхныя сілы ў далейшым змаганьні за сваё нацыянальнае існаваньне. Такім чынам існуе рэальная пагроза, што на вялізарных прасторах нашай плянэты могуць быць зьнішчаныя дзесяткі старых культураў, якія на працягу стагодзьдзяў упрыгожвалі ейнае аблічча. Нікога з шляхотных і сумленных людзей гэта ня можа цешыць. Але гэтая пэрспэктыва мае ў сабе элемэнты, якія мусілі-б кранаць і найбольш чорствыя душы. Адным з такіх элемэнтаў зьяўляецца лёгкае для кажнага ўяўленьне аб тым, якая пагроза стала-б перад рэштай вольнага яшчэ людзтва, калі-б крамлёўскія валадары дасягнулі свае мэты і на прасторах свайго валадарства стварылі масу уніфікаваных нацыянальна, культурна, псыхалягічна й палітычна аўтаматаў, гатовых безагаворачна выканаць любы загад дыктатарскага цэнтру.

Аб гэтым мусілі-б думаць у першую чаргу палітыкі, якія сваімі актамі й заявамі ствараюць псыхалягічную атмасфэру — абнадзейваюць або расчароўваюць веру людзей у лепшую будучыню, стымулююць або падрываюць іхную энэргію й рашучасьць да дзеяньня.

Той-сей прэтэндуе сяньня быць рэалістам у падыходзе да ацэны міжнароднага палажэньня. Рэалізм — добрая рыса. Але дрэнна, калі рэалізм становіцца аднабокім, не ахоплівае ўсяго комплексу рэальнага палажэньня. Рэальным зьяўляецца тое, што дыктатары ў Маскве і іхныя стаўленікі на пэрыфэрыях трымаюць уладу ў сваіх руках. Але ня менш рэальным зьяўляецца і тое, што у Беларусі ці Усходняй Нямеччыне гэтая ўлада была накінутая сілай, што народы яе не падтрымоўваюць і супраць яе змагаюцца. Нельга лічыцца толькі з аднэй рэальнасьцяй, трэба лічыцца з усімі. Недастаткова весьці перамовы з дыктатарамі-прыгнятальнікамі з мэтай задаваленьня інтарэсаў і ўмацаваньня пазыцыяў беспасярэдніх удзельнікаў перамоваў, ігнаруючы інтарэсы прыгнечаных, і толькі дзеля гэтага ўважаць сябе стопрацэнтным рэалістам. Такія перамовы павінны былі-б суправаджацца прынамся адпаведным узмацненьнем зацікаўленасьці лёсам прыгнечаных, каб у вапошніх не стварыць ўражаньня, што вольны сьвет канчаткова аддаў іх на ласку й няласку прыгнятальнікаў. Нажаль, у сучасны мамэнт нельга сказаць, каб гэтая мінімальная вымога паважна бралася пад увагу.

Моцны яшчэ відаць уплыў варожых і рэакцыйных сілаў там, дзе выпрацоўваюцца лініі актуальнай заходняй палітыкі. Зьвернем увагу, хоць-бы, на такі факт.

17 ліпеня 1959 году Кангрэс Задзіночаных Штатаў прыняў ведамую важную рэзалюцыю ў пытаньні паняволеных нацыяў. Гэтая Рэзалюцыя выклікала зьвярыную злосьць Хрушчова і ня меншую з боку прадстаўнікоў расейскага імпэрылізму на эміграцыі. Гэтым апошнім яна не дае супакою й сяньня. У нумары з 28 сакавіка гэтага году рэдактар нюёрскай расейскай газэты «Новое русское слово» М. Вайнбаўм зьмясьціў свой артыкул на тэму Рэзалюцыі аб Тыдні Паняволеных Народаў, ці, больш дакладна, супраць Рэзалюцыі і Тыдня. У артыкуле, між іншага, чытаем:

«Закон 86-90 ніякай сілы ня мае. Ён выказвае спачуваньне паняволеным нацыям, але ня мае ў сабе нічога такога, што сьветчыла-б аб намеры амэрыканскага народу і ўраду падмацаваць свае словы дзеяньнем. У гэтым сэньсе закон зусім бяскрыўдны («безобиден»).»

Хто не адчувае ў гэтых словах радасьці Вайнбаўма з прычыны таго, што амэрыканскі народ і ўрад быццам ня маюць намеру падмацаваць сваіх словаў дзеяньнем у кірунку вызваленьня паняволеных нацыяў? Адразу адчуваюцца словы іншага выдатнага чарнасоценца, што для яго лепш камунізм, чымся гэтак званы распадзел імпэрыі.

Парады вось такіх людзей ня вывядуць сьвету на шчасьлівую дарогу.

**А. З.**

# Напярэдадні Экумэнічнага Сабору

**АД РЭДАКЦЫІ:** У сувязі з просьбай нашых чытачоў даць выясьненьні аб Экумэнічным Саборы мы зьвярнуліся да Я. Э. Біскупа Ч. Сіповёча, які прыймае беспасярэдні ўдзел у арганізацыі Сабору й які прыслаў у Рэдакцыю ніжэй зьмешчаную інфармацыю.

☆

Ня шмат часу дзеліць нас ад даты 11-га кастрычніка гэтага году, калі мае адчыніцца XXI Экумэнічны Сабор, скліканы папам Янам XXIII-ім. Хаця гэты Сабор склікаецца зьверхнікам Каталіцкае Царквы і ў першую чаргу мае заняцца справамі, якія беспасярэдня датычаць толькі Яе, аднак бясспрэчна дзеля абыйма запраектаваных на ім спраў, дзеля ўдзелу ў ім прадстаўнікоў розных нацыяў, значаньне Сабору выходзіць далёка па-за рамкі Каталіцкае Царквы і таму трэба спадзявацца, што яго пастановы будуць мець вялізарны ўплыў на жыцьцё ўсіх народаў.

Сам назоў Сабор азначае ўрачысты зьезд біскупаў і царкоўных герархаў. Гэткія зьезды практыкаваліся ў Царкве ад самага яе пачатку і ўсе адназгодна ўважаюць, што такім першым Саборам быў так званы Апостальскі Сабор, які адбыўся ў Ерусаліме ў 49 г. Звычайна царкоўныя дастойнікі зьбіраліся на Сабор, каб у больш урачысты спосаб асудзіць памылкі або гэрэзіі ў пытаньнях веры і каб унармаваць жыцьцё вернікаў згодна з духам Эвангельля. У залежнасьці ад таго, ці на сабор запрашаліся біскупы ўсяе Царквы, ці толькі зь нейкае правінцыі, ён называўся экумэнічным або правінцыянальным. Паводля сучаснага каталіцкага кананічнага права экумэнічны сабор можа быць скліканы толькі папам, і кіраўніком Сабору, згодна зь гістарычнаю традыцыяю і царкоўным правам, павінен быць або сам папа, або ягоныя легаты. Ён так-жа прапануе справы да разгляду на Саборы, хаця ўдзельнікі, якіх прынята называць айцамі сабору, могуць у час яго нарадаў падаць свае прапановы да разгляду. З правам пастанаўляючага голасу заклікаюцца на сабор кардыналы, патрыярхі, архібіскупы, біскупы й архімандрыты (генэралы манаскіх законаў). Багасловы і праўнікі запрашаюцца толькі з дарадчым голасам. Пастановы і дэкрэты сабору маюць праўную моц толькі тады, калі іх фармальна пацьвердзіць і абвесьціць папа. Хаця экумэнічны сабор зьяўляецца найвышэйшай уладай Царквы, аднак ад вырашэньняў папы ня можа быць апэляцыі да сабору. Калі-б здарылася, што ў часе сабору памёр папа, гэтым самым сабор перарываецца да часу, пакуль новы папа, легальна выбраны, ня дасьць загаду яго прадаўжаць.

Царква з установы Хрыста патрабуе сталага, непамыльнага стоража веры і абычаяў. Паводля каталіцкае навукі такім зьяўляецца папа рымскі. А сабор, хаця і ёсьць найбольш урачыстай праяваю царкоўнае ўлады, аднак паводля свае натуры ён адбываецца вельмі рэдка і да таго спалучаны зь вялікім арганізацыйнымі цяжкасьцямі. На працягу дваццаці стагодзьдзяў адбылося толькі дваццаць сабораў.

Вось важнейшыя весткі аб кажным з папярэдніх сабораў:

**1. Першы Ніцэйскі ў 325 г.,** скліканы імпэратарам Канстантынам за часоў папы сьв. Сыльвэстра. Гэты сабор асудзіў гэрэзію Арыя, які цьвердзіў, што Хрыстос ня ёсьць Богам.

**2. Першы Канстантынопальскі ў 381 г.,** скліканы за часоў папы Дамазага і імпэратара Тэодара Вялікага. Асудзіў хвальшывую навуку гэрэтыкаў македоніянцаў адносна Сьвятога Духа.

3. **Эфэскі ў 431 г.** за часоў папы Цэлестына I і імпэратара Тэадозія II супроць гэрэтыка Нэсторыя. Найважнейшаю пастановаю гэтага сабору было абвешчаньне Марыі Маці Хрыста – Маткаю Бога (Багародзіцаю).

**4. Халькідонскі ў 451 г.** за часоў папы сьв. Льва Вялікага і імпэратара Марцыяна супраць гэрэтыка Эўтыхія. На гэтым саборы прызнаюцца ў Хрысьце дзьве натуры: боская й людзкая ў вадной асобе.

**5. Другі Канстантынопальскі ў 553 г.,** скліканы супраць волі папы Вігілія імпэратарам Юстыніянам. Пасьля папа даў згоду на яго і таму сабор лічыцца экумэнічным. Ён яшчэ раз асудзіў гэрэзію Нэсторыя і выступіў супраць некаторых памылак Орыгена й іншых.

**6. Трэйці Канстантынопальскі ў 680 г.,** скліканы за часоў папы Гонорыя, а пацьверджаны папам Агатонам. Выступіў супраць гэрэтыкаў так званых монотэлетаў, якія цьвердзілі, што ў Хрыста толькі адна воля і адно дзеяньне.

**7. Другі Ніцэйскі ў 787 г.,** за часоў папы Гадрыяна I і імпэратрыцы Ірэны. Выступіў супраць так званых іконаклястаў – гэрэтыкаў, якія адкідалі аддаваньне належнае чэсьці іконам.

**8. Чацьвёрты Канстантынопальскі ў 869—70 г.,** за часоў папы Гадрыяна II супраць патрыярха Фоція.

**9. Першы Лятэранскі ў 1123 г.** за часоў папы Калікста II. Гэты сабор займаўся інвэстытурай або надаваньнем імпэратарамі і іншымі сьвецкімі валадарамі разам з годнасьцю біскупа земляў. Такім чынам была асуджана інвэстытура і сымонія. Гэта быў першы сабор на Захадзе.

**10. Другі Лятэранскі ў 1139 г.** за часоў папы Інацэнтага II. Ён устанавіў правілы выбару папаў і асудзіў сымонію.

**11. Трэйці Лятэранскі ў 1179 г.,** за часоў папы Аляксандра III. Гэты сабор паўводзіў розныя рэформы ў Царкве, асудзіў катараў.

**12. Чацьвёрты Лятэранскі ў 1215 г.,** за часоў папы Інацэнтага III. Ён лічыцца адным з найважнейшых сабораў сярэднявечча; унармаваў духовае жыцьцё вернікаў адносна споведзі і вялікоднага Прычасьця, асудзіў альбігэнзаў.

**13. Першы Ліёнскі ў 1245 г. быў** скліканы папам Інацэнтым IV супраць імпэратара Фрыдрыха II.

**14. Другі Ліёнскі ў 1274 г.** за часоў папы Грыгора X-га. Займаўся справаю аб'яднаньня Усходняе Царквы з Заходняю.

**15. Венскі ў 1311-12 г. г.,** за часоў папы Клімэнта V-га. Выдаў дэкрэты аб уцелаўленьні, аб душы, разьвязаў закон Тэмпляраў.

**16. Канстанцкі 1414-18 г. г.** Закончыў так званую заходнюю сьхізму й асудзіў Гуса й Вікліфа.

**17. Флёрэнцкі ў 1439-45 г. г.** Скліканы папам Аўгенам IV-ым з мэтай аб'еднаньня хрысціян. Пасьля доўгіх тэалягічных дыспутаў з Грэкамі, ягоныя акты былі падпісаныя найвышэйшымі герархамі Лацінскае й Бізантыйскае Цэркваў.

**18. Пяты Лятэранскі ў гадох 1512-17,** скліканы папам Юліям II, а зачынены папам Львом X-ым. Асудзіў хвальшывыя цьверджаньні аб душы.

**19. Трыдэнцкі ў гадох 1545-63.** Скліканы папам Паўлам III, а зачынены папам Піюсам IV. Гэты сабор трываў найдаўжэй і ўвёў шмат рэформаў у Царкве, якія да сяньня маюць сваю вялікую вагу; асудзіў пратэстантызм.

**20. Ватыканскі Першы ў 1869 г.,** скліканы папам Піюсам IX, перарваны дзеля ваенных абставінаў і зачынены афіцыяльна цяперашнім папам у 1959 г. Найважнейшаю яго пастановаю было абвешчаньне догматаў непамыльнасьці папы, калі ён выступае як вучыцель веры і абычаяў.

Як бачым, адбылося дваццаць экумэнічных сабораў, зь якіх сем першых ёсьць аднолькава важных, як для каталікоў, так і для праваслаўных. Бяручы пад увагу дасягнутую згоду на Флёрэнцкім Саборы, гэты сабор мусіў-бы прыймацца аднолькава так праваслаўнымі, як каталікамі за экумэнічны.

25-га студзеня 1959 г. папа Ян XXIII з нагоды малітваў за адзінства ў хрысьціянскім сьвеце ў базыліцы сьв. ап. Паўла выказаў сваю волю склікаць сабор. Потым папа паясьніў, што гэты гістарычны акт ня ёсьць вынікам доўгіх разважаньняў, нарадаў або студыяў, але зьяўляецца выключна актам спантанічнага натхненьня. Ідэя новага сабору зьявілася ў яго падобна, як на вясну нечакана выбіваецца з прымёрзлае яшчэ зямлі краска.

17-га траўня 1959 г. распачаўся афіцыяльна перадпадрыхтавальны пэрыяд Сабору. Ён трываў каля аднаго году. У гэтым часе перадпадрыхтавальная камісія зьвярнулася да каталіцкіх герархаў на ўсім сьвеце, да каталіцкіх унівэрсытэтаў і да рымскіх курыяў з просьбаю неадкладна прыслаць свае прапановы і рады ў справе веры, звычаяў і царкоўнае дысцыпліны. Больш як 2 000 герархаў і ўсе каталіцкія ўнівэрсытэты прыслалі свае воты-жаданьні. Увесь гэты матарыял займае 15 вялікіх томаў друку. Адказы біскупаў і ўнівэрсытэтаў азначаюцца вялікаю свабодай: кажны адказваў так, як яму дыктавала сумленьне. Заўважым, што ня было ніякага адумысловага апытальніка.

Дня 5 чэрвеня 1960 г. у Рыме ў базыліцы сьв. Пятра ў прысутнасьці кардыналаў і шматлікіх біскупаў папа Ян XXIII заявіў, што перадпадрыхтавальны пэрыяд лічыць зачыненым і аб'яўляе новы – падрыхтавальны. З гэтае нагоды Ён выдаў «моту пропрыё», названае ад першых слоў «Пад натхненьнем Бога» (Superno Dei nutu). Паводля гэтага дакуманту ўстаноўлена дзесяць адумысловых камісіяў і два сакратарыяты. Назоў і склад камісіяў ёсьць добрым паказьнікам падрыхтавальных працаў Сабору. Вось яны:

1. Камісія Багаслоўская; 2. Камісія Біскупаў і кіраваньня епархіямі; 3. Камісія Дысцыпліны сьвятароў і вернікаў; 4. Камісія Законьнікаў (Манахаў); 5. Камісія для Сьвятых Тайнаў; 6. Камісія Літургічная; 7. Камісія для студыяў і сэмінарыяў; 8. Камісія Усходніх Цэркваў; 9. Камісія для місіяў; 10. Камісія для апостальства сьвецкіх людзей.

На часле кажнае Камісіі стаіць адзін з кардыналаў, а практычна кіруе працаю сакратар. **Найважнейшаю Камісіяю, якая ня ўходзіць у лік вышэй названых, ёсьць Цэнтральная Камісія, на чале якое стаіць сам папа, а яе сакратарам ёсьць выдатны каталіцкі дзеяч і пісьменьнік Пэрыкль Фэлічі.**

Кажная Камісія складаецца зь сяброў, якія маюць пастанаўляючы голас, і з дарадчыкаў. Усіх разам ёсьць больш чым 800 чалавек. Амаль усе народы й нацыі маюць там сваіх прадстаўнікоў, між якімі ёсьць так-жа і Беларусы. Працы і прапановы паасобных Камісіяў ідуць на пленум Цэнтральнае Камісіі – гэта ёсьць апошняя ступень у падрыхтоўцы да Сабору. Зразумела, што ўсе гэтыя падрыхтавальныя працы й прапановы Камісіяў ня звязваюць будучага Сабору.

Прадбачваецца, што Сабор зоймецца нутрана-адміністрацыйнымі справамі, асабліваю роляю біскупаў у жыцьці Царквы; кананічным правам так Заходняе, як і Ўсходняе галіны; манастырскім жыцьцём, місіямі сярод паганаў. У часы матарыялізму і агрэсыўнага бязбожжа не магчыма навет падумаць, каб Сабор не заняўся й пытаньнем сацыяльнага парадку. Сяньня так-жа Каталіцкая Царква зьвяртае вялікую ўвагу на рэлігійную дзейнасьць сьвецкіх людзей. Таму зь вялікім праўдападабенствам можам спадзявацца, што Сабор займаецца і гэтай важнай праблемай.

Шмат пішацца з розных бакоў так-жа аб аб'еднаньні ўсіх хрысьціянаў, а перадусім каталікоў з праваслаўнымі, зь вернікамі англіканскай і пратэстанцкай

(Заканчэньне з 3-яй бачыны)

# Новае кіраўніцтва калгасамі...

(Заканчэньне зь 1-ай бач.)

ны адміністрацыйна-гаспадарскай дзейнасьці калгасаў і саўгасаў. Такім парадкам сельская гаспадарка із стварэньнем новай сыстэмы пераводзіцца на надзвычаинае становішча. Ува ўсім гэтым прысьвечвае бальшавіком адна мэта – узяць ад калгасаў і саўгасаў як найболыш збожжа, мяса й малака для дзяржавы.

Паводля сваей структуры й абавязкаў сучасныя кіраўніцтвы калгасамі й саўгасамі выходзяць далёка за межы існуючых звычайных ворганаў дзяржаўнае ўлады. Уся іхная дзейнасьць будзе падпарадкаваная толькі вышэйшаму камуністычнаму кіраўніцтву.

У савецкім друку паявілася ўжо шмат артыкулаў і прапановаў у справе мэтадаў і спосабаў кіраваньня калгасамі й саўгасамі гэтымі новымі прыганятымі.

Аднак факты сьветчаць, што веснавыя палявыя работы асабліва ў сёлетнім годзе вельмі кульгаюць. Сяўба цягнецца ўжо месяц, а ейны плян выканаваны толькі на 30 працэнтаў. У радзе раёнаў калгасы абяцаюць сеяць цукровыя буракі на корм жывёлы, заміж заворванай канюшыны й іншых траваў. Савецкая прэса абвінавачвае шмат якія калгасы, што ня выкарыстоўваюць у працэсе сяўбы тэхнікі. Прыкладам, у Ашмянскім раёне абвінавачваюць калгас «Знамя Саветаў» за тое, што за ўвесь гэты час пасеяў толькі 54 гэктары ярыны або 1,9 працэнтаў у дачыненьні да пляну. «Тэхніка адкідаецца, а ўжываецца дзедаўская сявёнка», — упікае карэспандэнт газэты «Советская Белоруссия» з 8 траўня сёлета пад адрысам успомненага калгасу Ашмянскага раёну. А Ашмянскі раён ня вынятак. Асабліва дрэнна йдзе сяўба ў Віцебшчыне й Аршаншчыне.

Усё гэта сьветчыць аб тым, што ніякія надзвычайныя мерапрыемствы й рэарганізацыі ня змогуць прымусіць паняволенае беларускае сялянства працаваць пад калгасным прымусам.

**В. К.**

# Простыя людзі *)

**Усе аўтарскія правы засьцярэжаныя**

**(Заканчэньне з папярэдніх нумароў)**

— Зямля наша шматпакутная! — урэшце выгукнуў Алесь. — Колькі розных няшчасьцяў адбылося на ёй?! Яна ўся пакапаная курганамі, парэзаная акопамі, сточаная траншэямі! Хто можа падлічыць усе тыя ахвяры, якія панёс наш вытрывалы й працавіты народ ад адных толькі акупацыяў чужынцамі?!

У гэты час пачуўся званок. Магда, быццам-бы, чакала яго. Яна павольна паднялася зь месца, накінула на плечы вязаную хустку й выйшла ў калідор. Праз хвіліну ўвяла ў хату ўжо зусім сівога, але таксама яшчэ не старога, чалавека Убачыўшы яго, Алесь і Зьміцер із зьдзіўленьнем ускочылі зь месца.

— Вось ён, гэты самы хлопчык Яміла, аб якім мы ўспаміналі! — сказала. — Знаёмцеся!

— О, цётка!? — вырвалася ў пляменьнікаў. — Гэта-ж наш унівэрсытэцкі прфэсар!

І яны, як найлепшыя сябры, павіталіся із прафэсарам, даючы яму месца каля стала. Выбраўшы мамэнт, Алесь падміргнуў цётцы й прашаптаў:

— Ну, і хлопчык!?

— Ён і памог мне выратаваць вас ад бяздомнага стану: уладзіў на ўнівэрсытэт, выпатрабаваў стыпэндыю...

Потым яна падыйшла да ложка, хуценька згарнула свае шлюбныя рэчы й кінула іх у куфар.

— І так, птушаняткі, — прамовіў прафэсар, — пра што была гутарка?

— Ну, вось цяпер ужо будзе пра палітыку, — умяшалася Магда.

— А што нам? — не згадзіўся прафэсар. — Мы людзі простыя, мы не дыпляматы і можам пагутарыць шчыра.

— Асаблівай гутаркі ў нас ня было, — адказаў Алесь. — Проста, цётка Магда апавядала нам пра сваё каханьне да нейкага цудоўнага хлопчыка Ямілы, — у вачох ягоных заіскрыўся сьмех, — і пра тое, як няшчасна скончылася гэтае каханьне... Ён зірнуў на прафэсара, які ў гэты мамэнт апусьціў дадолу вочы. — І тады перада мной паўстала праблема: колькі розных няшчасьцяў адбылося і пралілося крыві на нашай каханай бацькаўшчыне?!

— «В лето 6491 (983). Иде Володимер на Ятвяги и победи уби Рогволода и сына его два, и дчерь его поя жене...» — пачаў суровым голасам прафэсар.

— «В лето 6491 (983). Иде Володимер на Ятвяги и победи Ятвяги, и взя землю их...» — дадаў Алесь.

— «В лето 6492 (984). Иде Володимер на Радимичи. Бе у него воевода Волчья Хвость. И победи Родимич Волчья Хвоста...» — працягваў прафэсар.

— «В лето 6546 (1038). Ярослав иде на Ятвяги...» — ня ўступаў Алесь.

— «В лето 6548 (1040). Ярослав иде на Литву...»

— «В лето 6575 (1067). Заратися Всеслав, сын Брячиславль, Полочьске, и зая Новгород. Ярославичи же трие — Изяслав, Святослав, Всеволод, — совокупиша вои, идоша на Всеслава, зиме-суще, велице... Си же братья взяша Менеск, и секоша муже, а жены и дети вдаша на щиты, и пойдоша к Немизе...»

— «И... Двина болотом течет оным грозным Полочанам, под кликом поганых. Един же Изяслав, сын Васильков, позвони своими острыми мечи о шеломы литовскыя... а сам подчрлеными щиты на крованве траве притрепан литовскыми мечи и с хотию на кров, а тъи рек: «дружину твою, княже, птиць крыли приоде, а звери кровь полизаша...»

— «...На Немизе снопы стелют головами, молотят чепи харалужными, на тоце живот кладут, веют душу от тела. Немизе кровави брезе не бологом бяхуть посеяны, посеяны костьми руских сынов...»

— А пазьней? — сказаў прафэсар.

— А пазьней Крыжакі, мангольскія ханы, маскоўскія князі, Палякі, Швэды, Французы і двойчы Немцы...

— Сядзім мы на відным месцы і хто ідзе той і скубе!..

— Якое-ж із гэтага выйсьце, прафэсар?

— Падумайце!

— Дасягнуць такога стану, калі бяз нашага ведама і згоды ніхто ня будзе мець магчымасьці пачаць вайны на нашай зямлі!

— Цудоўная ідэя! — выклікнуў прафэсар. — Але як яе зрэалізаваць?

— Палітычнай незалежнасьцю...

— Моцныя ня лічуцца зь ёю!

— Прымусіць!

— Якімі сяродкамі?

Алесь доўга маўчаў.

— Ведаеце што? Беларус глыбока абстрагаваны суб'ект! — пачаў урэшце. — Ён верыць, што на сьвеце існуе нейкі парадак, праўда, дабрамыснасьць... Гэтая вера ягоная ідзе з глыбінь вякоў! Ён жыў сярод няпрыступных лясоў і балот! «...и Двина болотом течет оным грозным Полочанам!..» І быў пераканаыны, што на яго не нападуць. Але, калі нападалі, ён з гонарам браўся за зброю супроць парушальнікаў гэтых вечных законаў і аднаўляў стан, які быў да нападу. Пазьней, як ён згубіў сваю незалежнасьць, яму нічога больш не заставалася, як толькі верыць, што праўда зноў запануе! Гэта вельмі добра выразілі ўсе беларускія пісьменьнікі, пачынаючы ад Адама Міцкевіча і да Купалы і Коласа. А Кастусь Каліноўскі і жыцьцё аддаў за яе! Такім ёсьць Беларус і сяньня. Ён, проста, прывык цярпець, пакуль на сьвеце зноў запануе праўда!..

— Голас мой — голас народны! — выклікнуў прафэсар.

— Некаторыя гэта лічуць комплексам ніжэйшасьці, няпоўнацэннасьці, маўляў, ён толькі і думае, каб зь кім-небудзь задзіночыцца!? Але, калі Беларус згубіць канчаткова веру ў гэтыя вышэйшыя ідэялы, дух помсты апануе яго пагалоўна! Гэтак было ўжо ня раз у ягонай гісторыі...

— Мы ўвайшлі ў той пэрыяд разьвіцьця чалавецтва, — пачаў цяпер прафэсар, — калі сьветлай зоркай пачынае гарэць над намі вера ў праўду, і кажная нацыя, кажны народ будзе вольны, жыць сваімі законамі і сваімі жаданьнямі, — адным словам, стане гаспадаром на сваёй зямлі.

— Мне паказваецца гэта крыху ўтапічным, прафэсар? — запярэчыў Алесь.

— Тады што-ж? Тады застаецца толькі падпарадкавацца законам джунгляў ды і маўчаць? Але я, усё-ткі, думаю, што і народы вялікіх дзяржаваў зразумеюць неабходнасьць жыць у згодзе й міры з малымі сваімі суседзямі на аснове гэтых вечных ідэялаў...

— Ну, вы там ужо зусім зарапартаваліся! — усьміхнулася Магда. — Трыццаць год таму назад я згубіла веру ў гэта. Але, давайце лепш спаткаем, як сьлед, Новы Год — засталося ўсяго дзьве хвіліны да дванаццатай.

Алесь наліў тры чаркі гарэлкі й адну «такаю». І якраз у гэты час прабіла дванаццатая. І тады прафэсар падняў сваю чарку й сказаў:

— Ну, дык вып'ем за Новы Год, за новае шчасьце, за волю й незалежнасьць усіх народаў на зямлі...

1962, Нью Ёрк

**Мікола Цэлеш**

*) Гэтае апавяданьне ў папярэдніх двух нумарох «Бацькаўшчыны» друкавалася пад загалоўкам «За новае шчасьце...», супраць чаго аўтар запратэставаў і зажадаў аднавіць прапанаваны ім загаловак «Простыя людзі», што гэтта й робім. Апрача гэтага, аўтар, баючыся, каб ягонае апавяданьне ня было выкарыстанае «нядобрасумленнымі людзьмі ў радыё, тэлевізіі, кіно ці дзе інш» безь ягонага ведама, запатрабаваў даць перад апавяданьнем зацемку: «Усе аўтарскія правы засьцярэжаныя». Дык робім для яго й гэтую прыемнасьць. — Рэд.

# Сакавіковая гадавіна ў вольным сьвеце

## Вашынгтон і Нью Ёрк

Сёлетняе сьвяткаваньне Незалежнасьці, як і штагоду, ладзіла Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне (БАЗА): акруговая ўправа ў супрацоўніцтве з галоўнай. Дзеля таго, што 25-га сакавіка прыпадала на нядзелю, ужо 23-га, у пятніцу, беларуская дэлегацыя ў складзе Яго Высокапраасьвяшчэнства Архіяпіскапа БАПЦ Ўладыкі Васіля й галоўнага старшыні БАЗА сп. К. Мерляка наведала Вашынгтон. Там у Сэнаце, у верхняй гасподзе Кангрэсу ЗША, з нагоды 44-х угодкаў абвешчаньня незалежнае Беларускае Народнае Рэспублікі, Уладыка Васіль прчытаў малітву за Беларусь і Амэрыку. «Прадвечны Божа, Спасе наш! – гаварылася ў маліцьве. – Пры нашым нараджэньні Ты ўлажыў у сэрцы нашыя імкненьні да свабоднага жыцьця. Мы горача просім Цябе сяньня, у дзень 44-х угодкаў абвешчаньня Незалежнай Беларускай Дзяржавы, глянь ласкавым вокам Тваім на наш паняволены народ, узмацні надзею яго й памажы яму вызваліцца ад бязбожнае крамлёўскае тыраніі. Усемагутны Божа й Ойча ўсіх народаў! Мы молім Цябе, памажы нам, каб Беларускі Народ і ўсе іншыя паняволеныя народы здабылі Тваю багаслаўленую свабоду, і гэтым занялі належны ім пасад сярод вольных народаў сьвету пад Тваім агульным кіравецтвам пад Тваёю апекаю, у Тваёй любові й справядлівасьці. Мы з пакораю схіляем галовы свае перад Табою, Божа й Спасе наш, і зь Вераю молім Цябе, прымі гэтую малітву нашую, багаславі Задзіночаныя Штаты Амэрыкі й нашую Маці-Беларусь. Няхай цудоўнае Імя Тваё, Божа й Ойча наш, пануе й зьзяе ў сэрцах нашых, славіцца й багаславіцца цяпер, і заўсёды, і навекі. Амін.»

Беларуская дэлегацыя была прынятая Віцэ-Прэзыдэнтам ЗША Джонсанам. У гутарцы з дэлегатамі Віцэ-Прэзыдэнт вітаў Беларусаў з днём Незалежнасьці ды прасіў перадаць усім ягоныя пажаданьні вызваленьня й свабоды Беларусі.

Губэрнатар штату Нью-Ёрк Нэльсан Рокфэлэр і мэр места Нью-Ёрку Робэрт Вагнэр адмысловымі праклямацыямі абвесьцілі сёлета дзень 25 сакавіка Днём Беларускае Незалежнасьці. Гэткія-ж праклямацыі былі абвешчаныя ў суседнім штаце Нью-Джэрзы ды ў двух гарадох гэтага штату Нью-Брансўіку й Пасэйку.

### Урачысты сход

У Нью-Ёрку дзень 25 сакавіка пачаўся ўрачыстай багаслужбай у катэдральным саборы сьвятога Кірылы Тураўскага, адслужанай Уладыкам Васілём у суслужэньні духавенства. Папаўдні у вадным з цэнтральных гатэляў Мангэтэну, гатэлі «Білтмор», адбыўся ўрачысты сход беларускага грамадзтва й гасьцей. Адчыняючы сход, старшыня акруговае ўправы БАЗА сп. Д. Клінцэвіч казаў пра абход беларускага сьвята Незалежнасьці:

«Для нас, Беларусаў і Амэрыканцаў беларускага паходжаньня, гэта і беларускае і амэрыканскае сьвята. Так, і амэрыканскае, бо амэрыканскі народ сваёй гістарычнай Дэкляарацыяй Незалежнасьці 4 ліпеня 1776 г. першы паказаў паняволеным народам, у тым ліку й беларускаму, калі й чаму выпадае ім павіннасьць змагацца за тое, каб «заняць сярод дзяржаваў зямлі апрычонае й роўнае становішча, да якога даюць ім права Законы Прыроды й Бога Прыроды», — кажучы словамі тае Дэклярацыі. 25 сакавіка 1918 г. і беларускі народ заявіў такую-ж сваю Дэклярацыю Незалежнасьці, названую тады Трэйцяй Устаўной Граматай Рады БНР. І ў гэтым нашае беларускае сьветлае сьвята. Сьветлае, хоць цёмныя сілы гісторыі й пасталіся захмарыць яго, ня даўшы тэй Дэклярацыі выканацца адразу й даканца так, як яна была прагалошаная. Незалежнасьць нашую гэныя сілы затапілі ў гвалце й крыві, а ідэю яе перахапілі й спатворылі, абярнулі ў бледную здань пад хвальшывым імём Беларускай Савецкай Сацыялістычнай Рэспублікі. Ды не на век-жа гэта. Вера ў праўду й надзея на перамогу гэтае праўды ніколі не пакідала й не пакідае нашага народу. Не пакідае яго й змагарны дух і чын. Рада БНР, апынуўшыся на выгнаньні, не складае рук у змаганьні за ідэю незалежнасьці Беларусі, абвешчаную ёю-ж 25 сакавіка 1918 г. Грунтуючыся на запаветах і тэстамэнтах сваіх закладнікаў і кіруючыся імі, яна бязупынна й як мага вядзе, узначальвае й кіруе гэтае змаганьне як у вольным сьвеце, так і на паняволенай сяньня бацькаўшчыне. У гэтым-жа змаганьні як мага й чым мага бяруць удзел і іншыя беларускія арганізацыі, у тым ліку й нашае Беларуска-Амэрыканскае Задзіночаньне».

Галоўнымі прамоўцамі на сходзе былі два ньюёркаўскія кангрэсмэны сп. сп. С. Стратан і Г. Керы. У сваіх прамовах яны выказалі станоўкае падтрыманьне беларускаму вызвольнаму руху, гаварылі аб патрэбе больш наважанае вонкавае палітыкі амэрыканскага ўраду ў вабарону правоў паняволеных народаў, запэўнялі ў сваім падтрыманьні беларускае справы ў Кангрэсе Амэрыкі. Кангрэсмэн Керы паведаміў таксама, што ён энэргічна ўзяўся за дасьледаваньне пытаньня радыёвых перадачаў у беларускай мове праз дзяржаўную радыястанцыю «Голас Амэрыкі», якая, кангрэсмэн Керы пераканаы, мусіць даць месца ў сваіх праграмах і беларускай мове.

З бадзёрымі словамі падтрыманьня й салідарнасьці выступіў таксама й асабісты прадстаўнік мэра Нью-Ёрку Вагнэра сп. Дж. О'Браен.

Віталі Беларусаў ізь сьвятам Незалежнасьці цэлы рад прадстаўнікоў ад прыязных народаў і арганізацыяў, у тым ліку ад Асамблеі Паняволеных Народаў (сатэліты). Апрача лічных асабістых выступленьняў, было прачытана каля сотні пісьмовых прывітаньняў ад сэнатараў, кангрэсмэнаў, губэрнатараў, іншанацыянальных арганізацыяў і дзеячоў. 16 пісьмовых правітаньняў было атрымана ад беларускіх арганізацыяў.

У мастацкай частцы ўзялі ўдзел: кампазытар праф. Эльза Зубковіч (акампаніямэнт), сп-ня Ліза Маркоўская й спчня Галіна Ора (салёвыя песьні), беларускія дзеткі з Саўт-Рывэру й Нью-Брансўіку з танцамі й дэклямацыямі пад кіраўніцтвам сп-ні Крыўка.

На сходзе была аднадушна прынятая рэзалюцыя, у якой выказаная станоўкая наважанасьць весьці далей змаганьне за ідэялы Беларускае Народнае Рэспублікі ды заклік да ўраду Амэрыкі памагчы беларускаму народу ў гэтым змаганьні за незалежнасьць.

### Пытаньне незалежнасьці Беларусі ў Кангрэсе ЗША

Сьвята Беларускае Незалежнасьці знайшло свой гулкі водгук і ў Кангрэсе Амэрыкі. Цэлы рад сэнатараў і кангрэсмэнаў, прадстаўнікоў штатаў Нью-Ёрк, Нью-Джэрзы, Огаё, Аёва, Іліной, Каліфорнія выступілі ў Кангрэсе з прамовамі й заявамі з нагоды 44-х угодкаў абвешчаньня БНР. Усіх выступленьняў было шаснаццаць. Прадстаўнікі найвышэйшага амэрыканскага заканадаўчага органу адзначылі ў сваіх заявах, што беларускі народ мае багатую гісторыю й культуру; што Беларусь была гвалтам далучаная ў канцы XVIII стагодзьдзя да Расейскае імпэрыі; што царскі рэжым перасьледаваў Беларусаў; што ў пэрыядзе 1917-18 гадоў беларускі народ выявіў сваю нязломную волю да незалежнага дзяржаўнага жыцьця, але ў цяжкім змаганьні быў здушаны бальшавіцкай дыктатурай, якая й цяпер бязьлітасна прыгнечвае Беларусь. У выступеньнях санатараў і кангрэсмэнаў

(Заканчэньне з папярэдняга нумару)

была аднадушна выказаная надзея й упэўненасьць, што беларускі народ, які на працягу гэтулькіх год не пакарыўся маскоўскім панявольнікам, здабудзе ў канчальным выніку сваю свабоду й незалежнасьць.

Лідэр рэспубліканскае партыі ў Сэнаце сэнатар сп. Дырксэн і кангрэсмэн із штату Аёва сп. Кыл зьвярнулі таксама ўвагу Кангрэсу на ўзмоцненую апошнім часам камуністычную прапаганду сярод Беларусаў Амэрыкі. Гэтую прапаганду вядзе зь Менску й усходняга Бэрліну беларуская сэкцыя г. зв. «Камітэту за вяртаньне на радзіму й разьвіцьцё культурных сувязяў з суайчыньнікамі» спосабам газэты «Голас Радзімы», брашураў ды радыёвых праграмаў.

Гаворачы пра гэтую прапаганду, кангрэсмэн Дэрвінскі із штату Іліной заявіў пра канечнасьць выпрацаваньня амэрыканскім урадам замежнае палітыкі, якая-б забясьпечыла паняволеным народам свабоду.

Кангрэсмэн Фіен із штату Огаё, гаворачы пра новы тып каляніялізму, прынесены на Беларусь у 1918 годзе на штыхох чырвонае арміі, зьвярнуўся да Прэзыдэнта Кенэды з гарачым заклікам паставіць урэшце гэтае пытаньне разам з пытаньнем самавызначэньня на парадаку дня АЗН.

Трэба адзначыць, што пазытыўна спрычынілася да колькіх выступленьняў у Кангрэсе Арганізацыя Беларуска-Амэрыканскае Моладзі ў Штаце Іліной (АБАМСІ) сваім лістом да ілінойскіх сэнатараў і кангрэсмэнаў.

Сорак чацьвертыя ўгодкі абвешчаньня БНР былі адзначаныя якраз тады, калі маскоўскія акупанты ліхаманкава пачалі праводзіць на Беларусі й сярод беларускае эміграцыі кампанію фізычнага й псыхалягічнага тэрору ды аблыжнае прапаганды супраць Рады БНР. Гэта абазначае, што весткі пра нацыянальна-вызвольную дзейнасьць Беларусаў на эміграцыі што раз больш прасякаюць на бацькаўшчыну, як і весткі з бацькаўшчыны пра нязломны супраціў акупантам што раз больш прасякаюць у вольны сьвет. Беларускі вызвольны рух зьліваецца ў вадзін, нястрымны паток, што змые із свае дарогі ўсе перашкоды да свабодалюбных ідэялаў 25 Сакавіка.

**А. Будзіч**

## Напярэдадні Экумэнічнага Сабору

(Заканчэньне з 2-ой бач.)

хрысьціянаў ёсьць адною з найбольш важных у нашую эпоху. Усе згодныя ў тым, што падзел хрысьціянаў супярэчыць волі Хрыста, што гэты падзел аслабляе сілу хрысьціянства ў змаганьні з бязбожжам, у апостальскай працы сярод нехрысьціян, – аднак мусім прызнаць, што пытаньне аб'яднаньня хрысьціянаў аднасасова ёсьць вельмі цяжкім і складаным. Мы цешымся зь сяньняшніх спатканьняў і прыяцельскіх суадносінаў паміж найвышэйшымі герархамі розных вызнаньняў, аб чым дзесятак гадоў таму назад нельга было навет і падумаць. Паміма ўсяго гэтага, аднак кажны ставіць трывожнае пытаньне: ці прыйшоў ужо той час, калі ўсе хрысьціяне злучацца ў вадно стада пад адным пастырам, каб споўнілася воля Хрыста: «каб усе былі адно»?

Бяз сумлеву, як папа Ян XXIII, так і скліканы ім Сабор зробяць усё магчымае, каб прынамся падрыхтаваць грунт да будучае еднасьці.

Лёнданн, 17. IV. 1962.

**† Ч. Сіповіч**
**Біскуп**

## Нью Брансьуік

Сёлета 44-ыя ўгодкі абвешчаньня дзяржаўнай незалежнасьці Беларусі былі асабліва ўрачыста адзначаныя беларускай калёніяй Нью Брансьуік – Саўт Рывэр і аколіцаў. Нядзеля 25-га сакавіка была абвешчаная ўжо па традыцыі губэрнатарам штату Нью Джэрсі сп. Рычардам Юджэсам Днём Беларусі ў гэтым штаце і ўпяршыню абвешчаная Днём Беларусі бурмістрам гэтага места сп. Чэстарам Паўлюсам. У пятніцу 23 сакавіка дэлегацыя беларускіх грамадзкіх арганізацыяў на чале із старшынём Аддзелу БАЗА сп. С. Гутырчыкам зложыла візыту ў гарадзкую ўправу, дзе была прынята бурмістрам гораду, пасьля чаго беларускі бел-чырвона-белы сьцяг быў



Прэзыдэнт Рады БНР М. Абрамчык гутарыць із сп. Отлоўскім — кандыдатам на кангрэсмэна. Фото Ал. Стагановіча



Узьняцьце беларускага сьцягу на ратушы гораду Нью Брансьуік. Фото Алеся Стагановіча

падняты разам з амэрыканскім сьцягам на машце гарадзкой управы. Гэта быў узапраўды ўрачысты мамэнт і вялікі гонар для кажнага Беларуса. Не зважаючы на тое, што гэта быў працоўны дзень, вялікая група нашых людзей прыйшла пад гарадзкую ўправу, каб пабачыць, як Амэрыканцы ўшанавалі беларускі сьцяг.

У нядзелю 25-га сакавіка амаль уся тутэйшая беларуская калёнія прыняла ўдзел у ўрачыстасьцях, ладжаных Беларуска-Амэрыканскім Задзіночаньнем у Нью Ёрку. Там-жа група нашых дзетак пад кіраўніцтвам сп-ні В. Крыўкі выканала інсцэнізацыю «Грыбкі».

У нядзелю 1-га красавіка Аддзел БАЗА ў Нью Брансьуіку ладзіў сьвяткаваньне дня незалежнасьці ў сябе дома. У царкве Жыровіцкай Божай Маці раніцаю была адслужаная ўрачыстая Служба Божая мітрафорным пратаерэем а. Сьцяпанам Войтэнкам. Па паўдні адбылася урачыстая Акадэмія, якую ушанавалі прысутнасьцяй шмат дастойных гасьцей ад беларускіх палітычных і грамадзкіх арганізацыяў ды прадстаўнікоў ад амэрыканскіх уладаў. Акадэмію адчыніў старшыня Аддзелу БАЗА сп. Сяргей Гутырчык. Першым пасьля яго прамаўляў прэзыдэнт Рады БНР сп. М. Абрамчык. Кароткі рэфэрат на тэму дня прачытаў д-р В. Васілеўскі. З прывітаньнем і гарачым заклікам да працы выступіў старшыня Галоўнай Управы БАЗА сп. К. Мерляк. Глыбокае зразуменьне нашай праблемы выказаў у сваей прамове сп. Джордж Отлоўскі – кандыдат у кангрэсмэны ад Дэмакратычнай партыі. Сяброўкай ЗБМА Аняй Стома былі прачытаныя прывітаньні ад губэрнатара штату Нью Джэрсі сп. Рычарда Юджэса, ад сэнатараў і кангрэсмэнаў, ад амэрыканскіх і беларускіх установаў. Прысутным было прыемна пачуць з вуснаў амэрыканскіх прадстаўнікоў, што робленыя ад даўжэйшага часу захады, каб здабыць беларускія перадачы ў радыё «Голас Амэрыкі», зьбліжаюцца да мэты. Акадэмія закончылася адсьпяваньнем беларускага нацыянальнага гімну.

У кароткай мастацкай частцы пад кіраўніцтвам сп. В. Стомы выступіў хор ЗБМА й нашыя дзеткі ўзноў паявіліся ў інсцэнізацыі «Грыбкі».

Трэба адцеміць, што ўдалае адсьвяткаваньне ўгодкаў абвешчаньня незалежнасьці Беларусі было бясспрэчнай заслугай Управы мясцовага Аддзелу БАЗА і ў вялікай меры вынікам добрай каардынацыі працы між Адзелам і Галоўнай Управай БАЗА ў Нью Ёрку.

**Мясцовы Беларус**

**АБАВЯЗКАМ КАЖНАГА БЕЛАРУСА ЁСЬЦЬ ЧЫТАЦЬ, ПАШЫРАЦЬ І ПАДТРЫМЛІВАЦЬ «БАЦЬКАЎШЧЫНУ».**

## Лёндан

44-ыя ўгодкі абвешчаньня незалежнасьці Беларусі ў Лёндане сёлета адзначаліся дзьвюмя беларускімі арганізацыямі супольна: Згуртаваньнем Беларусаў у Вялікабрытаніі і Хрысьціянскім Аб'еднаньнем Беларускіх Работнікаў. З гэтаю мэтаю з абедзьвюх арганізацыяў быў вылучаны спэцыяльны Арганізацыйны Камітэт, які й прыгатаваў праграму сьвяткаваньня.

Урачыстая Акадэмія была папярэджаная малебенам за Беларусь — у беларускай каталіцкай царкве пры законе айцоў Марыянаў, які быў адслужаны а. Л. Гарошкам і а. Я. Гэрмановічам, і ў англіканскай царкве, які быў адслужаны беларускім праваслаўным сьвятаром а. Вячаславам Тарановічам.

Сама Акадэмія адбылася 25-га сакавіка ў залі пры англіканскай царкве. Акадэмію адкрыў старшыня ЗБВБ сп. У. Бутрымовіч, які ў уступным слове выясьніў, чаму Беларусы так высока цэняць сакавіковыя ўгодкі. Пасьля яго сакратар ХАБР сп. А. Варава прачытаў даклад пад назовам «Значаньне Акту 25-га Сакавіка». Дакладчык падрабязна прааналізаваў вялізарны ўплыў гістарычнага сакавіковага Акту на беларускае грамадзкае й палітычнае жыцьцё. Наступны даклад быў у ангельскай мове, прачытаны шчыраю прыяцелькаю Беларусаў Ангелькаю сп-няй В. Рыч. Яна насьветліла гісторыю змаганьня беларускага народу за здабыцьцё дзяржаўнае незалежнасьці, а так-жа адзначыла вялікія ахвяры, якія складае беларускі народ дзеля дасягненьня сваей нацыянальнай мэты. Дакладчыца, між іншым, адцеміла, што самагубства беларускага савецкага пісьменьніка Ўсевалада Краўчанкі, якім ён запратэставаў супраць зьдзеку над беларускім народам маскоўскім акупантам, зрабіла вялікае ўражаньне ў ангельскім літаратурным сьвеце.

Вельмі добра выйшла мастацкая частка Акадэміі й за ейнае прыгатаваньне належыцца вялікая падзяка сп-ні В. Рыч, якая ў бальшыні прыгатавала яе. Сп-ня Джой Люкстон вельмі прыгожым голасам сопрано выканала беларускую патрыятычную песьню «Люблю наш край» і беларускі рэлігійны гімн «Магутны Божа», абедзьве ў перакладзе на ангельскую мову сп-няй В. Рыч. Сп-ня Вівьян Грэгам прыгожа выканала балетны танец, які сымбалізаваў заняпад і адраджэньне беларускага народу. Харэаграфія танцу была апрацаваная самой выканальніцай, а музыка да яго была падабраная зь беларускіх народных мэлёдыяў і твораў беларускіх кампазытараў. Сп-ня В. Рыч і сп-ня К. Адамс памастацку прадэклямавалі ўрыўкі з паэмы Якуба Коласа «Сымон Музыка» ў ангельскай мове паводля тэксту, перавезенага сп-няй В. Рыч. У беларускай частцы праграмы мясцовы хор пад кіраўніцтвам сп. Я. Весялкоўскага выканаў песьні «Пагоня», «У гушчарах» і «На выгнаньні». На заканчэньне сп-ня Д. Леско прыгожа выканала беларускія народныя песьні «Цякла рэчка», «Усе казалі», а на біс «Польку Янку» й «Лявоніху».

Пасьля Акадэміі адбылося прыняцьце для ўсіх прысутных.

**Сакратар ЗБВБ**

## Парыж

Беларуская калёнія ў Парыжы адзначыла 44-ую гадавіну абвешчаньня незалежнасьці Беларусі 25-га сакавіка сёлета ў вялікай залі CFTC. Апрача колькіх дзесяткаў беларускіх патрыётаў, у сьвяткаваньні прыймалі ўдзел таксама й прыяцелі Беларусаў зь іншых нацыянальнасьцяў. Ад Французаў былі прысутнымі й прамаўлялі генэрал Дэ Ліні, які прыймаў асабіста ўдзел у падзеях 1918 году на Беларусі. Ён падзяліўся ўспамінамі з таго часу. Далей д-р Марыя Кэруэль падчыркнула неабходнасьць супрацоўніцтва эмігрантаў з францускім грамадзтвам з мэтаю інфармаваньня апошняга аб сваіх праблемах і вызвольных імкненьнях. Пасьля прамаўлялі інж. Леван Зарубішвілі – прадстаўнік і старшыня Грузінскай калёніі ў Парыжы, інж. Марын Барбулеску – прадстаўнік Румынаў, сп. Мяткоў – прадстаўнік Казакаў. Ад Казакаў удзельнічалі ў сьвяткаваньні палкоўнік Братчыкаў, рэдактар Гэтманаў і іншыя. Вельмі шчырую брацкую прамову сказаў праф. Кульчыцкі – віцэ-прэзыдэнт Украінскага Хрысьціянскага Руху. Усе

(Заканчэньне на 4-ай бачыне)

# Сакавіковая гадавіна ў вольным сьвеце

(Заканчэньне на 3-яй бач.)

прамоўцы заклікалі да цеснага супрацоўніцтва ўсіх нацыянальнасьцяў у вызвольным змаганьні.

Пасьля прадстаўнік Беларусаў сп. Ул. Шыманец прачытаў рэфэрат на тэму змаганьня беларускага народу супраць расейскага імпэрыялізму, пачынаючы ад Кастуся Каліноўскага аж да Акту 25-га сакавіка 1918 году. Дакладчык глыбака прааналізаваў усе важнейшыя этапы вызвольнага змаганьня беларускага народу й закончыў выказаньнем цьвёрдае веры, што прыйдзе час, калі ідэя дзяржаўнае незалежнасьці беларускага народу станецца рэальным фактам.

На заканчэньне ўсе прысутныя, стукаючыся чаркамі шампанскага, жадалі дачакацца рэалізацыі незалежніцкіх ідэялаў беларускага народу.

**Удзельнік**

## Таронта

Гэтым разам Згуртаваньне Беларусаў Канады сьвяткавала асобна, бо немагчыма было дамовіцца зь Беларускім Нацыянальным Аб'еднаньнем, каб сьвяткаваць супольна. Сьвяткаваньне адбылося 24-га сакавіка вечарам у залі Беларускага Рэлігійна-Грамадзкага Цэнтру. Пачалося з урачыстай Акадэміі. Заля была перапоўненая сябрамі ЗБК, іншымі Беларусамі й гасьцямі. Да ганаровых гасьцей належалі Прэзыдэнт Рады БНР сп. інж. Мікола Абрамчык і тры прадстаўнікі БАЗА з Дэтройту. Зь іншых гасьцей былі афіцыяльныя канадзкія прадстаўнікі й прадстаўнікі этнічных групаў.

Акадэмію адчыніў старшыня ЗБК сп. В. Касьцюкевіч і перадаў голас д-ру Б. Рагулі для дакладу й вядзеньня Акадэміі. Д-р Рагуля гаварыў уперамешку па-беларускай і ангельскай мовай, коратка, але жыва й зразумела, часамі з гумарам. Ён патрапіў трымаць публіку ў сталым ажыўленьні й зацікаўленьні.

Асноўным дакладам стаўся ўсё-ж даклад Прэзыдэнта Абрамчыка. Прэлегэнт разгледзіў сутнасьць Акту 25-га Сакавіка й ягоную гэнэзу, зьвярнуў увагу на [illegible] змаганьне за ідэалы 25-га Сакавіка ды прадставіў коратка нашую сучасную палітычную сытуацыю.

Прамаўляла яшчэ некалькі асобаў — адныя ў часе Акадэміі, іншыя — у часе банкету. Гэта былі: заступнік старшыні БАЗА сп. В. Пляскач; паслы Онтарыйскага парляманту Ален Грос і А. Томпсон; пасол фэдэральнага парляманту Джон Мортон; дырэктар Інтэрнацыянальнага Інстытуту ў Таронта сп-ня Ўэст: сакратар Кансэрватыўнай Партыі на Таронта Дж. Андэрсон; прадстаўнік Украінцаў ад КУК-у й СУЖЭРО ды прадстаўнік Эстонцаў.

Мастацкая частка была багатай і цікавай. Пачалася яна вершам Янкі Купалы «На Куцьцю», які прадэклямавала Д-р Раіса Жук. Далей ішлі песьні з удзелам трох Украінак: «Я ад вас далёка» — дуэт на словы Я. Купалы, музыка М. Куліковіча, у выкананьні ведамай і папулярнай сярод Белраусаў украінскай сьпявачкі сп-ні Надзеі Лысанюк і сп-ні С. Сланэцкай пры акампаньяманьце сп-ні С. Жоўнір-Клос; «Васілёчкі» — дуэт на словы М. Кавыля, музыка М. Куліковіча, у выкананьні сп-ні Лысанюк пры акампаньяманьце сп-ні Жоўнір-Клос. Сьпявалі Украінкі, але хто-б гэтага ня ведаў, ніколі-б не здагадаўся, што пяюць не Беларускі. Так глыбака й пачуцьцёва яны аддалі настрой песьняў, так шчыра пабеларуску гучэла вымова прасьпяваных імі слоў.

Пасьля гэтага выйшлі на сцэну дзеці. Тры малыя дзяўчынкі — Барановічаў, Грыцукоў і Куляшоў прадэклямавалі хорам вершык пад кіраўніцтвам сп-ні Барановічыхі; Валя Навіцкая выканала на піяніне дзьве кароткія рэчы Бэтховэна, Тамаш Кулеш таксама выканаў дзьве рэчы на піяніне, а малы Парадоўскі зайграў на акардыёне. На заканчэньне мастацкай часткі сп-ня Лысанюк прасьпявала солё ўрывак з «Жаніцьбы Фігаро» Моцарта пад акампаніямант сп-ні Жоўнір-Клос.

Была й трэйцяя частка — банкет. Публіка расступілася й, як маланкай спаліць, былі рассунутыя крэслы й на залі зьявілася вялікая падкова сталоў зь беласьнежнымі абрусамі, застаўленых судзьдзём зь пітвом і емінай. І пайшла бяседа талакой, як і пры рабоце, узбагачаная прамовамі, тостамі й сьпевамі. Закончылася ўся ўрачыстасьць адсьпяваньнем нацыянальнага гімну.

На другі дзень 25-га сакавіка гадавіна абвешчаньня незалежнасьці Беларусі была адзначаная адмысловай Богаслужбай за беларускі народ у мясцовай царкве сьв. Кірылы Тураўскага. Адправіў службу й сказаў прыгожае казаньне айцец М. Мацукевіч.

На заканчэньне астаецца сьцьвердзіць, што сёлетняе сьвяткаваньне адзначалася ня толькі добрай праграмай, але й добрай арганізацыяй. Заслуга ў гэтым Галоўнай Управы й Таронтаўскага аддзелу ЗБК.

**Залешчанін**

## Садбуры

Нашыя садбурцы мелі цяжкі год, год змаганьня з камуністымі, якія закараніліся ў мясцовай работніцкай вуніі гарнякоў ды трэсьлі лёсам 17 000 работнікаў. Беларускім садбурцам прышлося стаць у першай лініі змаганьня, бо хто-ж лепш ведае, што значыць камуністычнае ярмо, як не яны. Цяпер у змаганьні гэтым наступіла быццам «перадышка», але, ня гледзячы на гэта, увесь горад знаходзіцца ў нейкім прыціхлым напружаньні. І цяпер яшчэ галосіць цкаг[illegible] стычнай прапаганды, што вось, вось узновяцца правакацыі ды маральныя й фізычныя напады. У такой атмасфэры людзі ўнікаюць публічных збораў. Але й у гэтай атмасфэры Садбурскі Аддзел ЗБК адсьвяткаваў 44-ую гадавіну абвешчаньня незалежнасьці Беларусі, як ня ў публічнай залі, дык у прасторным прыватным памешканьні. Было гэта ў суботу 30-га сакавіка.

Фактычна адсьвяткаваная была падвойная гадавіна: 10-ая гадавіна Аддзелу ЗБК ў Садбуры й 44-ая гадавіна 25-га Сакавіка. Сабраліся сябры ЗБК зь сем'ямі ды іншыя Беларусы. Урачыстасьць адкрыў старшыня Аддзелу сп. Д. Курыловіч. Гаварыў пра абедзьве гадавіны, але больш пра гадавіну Аддзелу, бо аб 25-ым Сакавіку перадаў слова Д-ру Жуку. Расказаў пра дзесяць год цяжкай натужанай працы. Гуртаваньне гарнякоў Беларусаў спачатку, арганізаваньне іх і вядзеньне нацыянальна-грамадзкай працы ў далейшым. Намагаліся набыць собскі грамадзкі дом, пачалі зьбіраць грошы, часова стрымала гэтую акцыю ўспомненае змаганьне. Арганізавалі нацыянальныя сьвяткаваньні, выступалі з рэпрэзэнтацыяй беларускага імя ўсюды, дзе толькі было магчыма, з радыем і прэсай улучна. Дзесяць год таму пра Беларусаў у Садбуры ніхто ня чуў, сяньня-ж Беларусы прыймаюць удзел ува ўсіх міжнародных ды міжнацыянальных імпрэзах. Уваходзяць у Этнічную Фэдэрацыю і ў Канадзкі Саюз Салідарнасьці. А найважнейшае — Беларусы стаяць на чале ў змаганьні з камуністымі, і ўсе аб гэтым ведаюць. Аддзел даваў сталую матарыяльную й маральную падтрымку цэнтралі ЗБК ў Таронце, БАПЦаркве і сваім суродзічам у Нямеччыне. Ад самага пачатку існаваньня Аддзел стаў на грунт БНР у палітычным жыцьці. На заклік старшыні прысутныя ўшанавалі памяць памерлых сяброў Аддзелу Кахоўца, Шульгі й Баслыка хвілінай цішыні.

Др. В. Жук вітаў прысутных з 25 Сакавіком і 10-мі ўгодкамі Аддзелу. Расказаў пра змаганьне за зьдзейсьненьне Вялікага Акту Незалежнасьці, спыніўся на сучаснай сытуацыі, пералічыў дасягненьні й цяжкасьці ды пажадаў посьпехаў і вытрываласьці ў далейшай працы.

На заканчэньне палілася вольная бяседа за багата застаўленымі сталамі. Чутны былі тосты за незалежнасьць Беларусі, за Аддзел ЗБК у Садбуры, за перамогу над камуністымі. Садбуры — гэта не абы што. Горад лічыць 76 000 жыхароў, а садбурскія капальні даюць 80% сьветавай прадукцыі нікелю. Не дарма-ж камуністыя зьвілі там сабе гняздо. Не дарма-ж існуе й Аддзел ЗБК у Садбуры.

**Залешчанін**

## *Зь беларускага жыцьця*

### З ЖЫЦЦЯ БЕЛАРУСАЎ У МЭЛЬБУРНЕ

З пачаткам аўстралійскай вясны ўжо ад колькіх год адбываецца ў Мэльбурне вялікая імпрэза-фэстываль — дэкада культурна-спартовых паказаў, званая Мумба. Удзельнічаюць у ёй актыўна тысячы асобаў і сотні тысяч гледачоў. Ня дзіва таму, што ў часе Мумбы вельмі добрая на ода зарэпрэзэнтавацца ці хоць-бы пабачыць сам парад, які нармальна адбываецца ў вапошнім дні Мумбы.

Сёлета Мумба адбывалася ад 2 да 12 сакавіка. Інтэранцыянальны Камітэт Мумбы запрасіў да ўдзелу ўсіх, асабліва г. зв. Новааўстралійцаў. І многія скарысталі з гэтых запросінаў і з большым ці меншым пасьпехам задэманстравалі асобна ці супольна ладжанымі канцэртамі й тэатральнымі пастаноўкамі сваю нацыянальнасьць. У гэтым годзе ў Мумбе прынялі ўдзел і Беларусы. Праўда, ня выставілі, як іншыя, сваіх красунь у кандыдаткі на Міс Мумба, якія праз цэлую дэкаду рабілі прапаганду сваім суродзічам і краіне свайго паходжаньня, не папісаліся родным мастацтвам, але ўдзельнічалі толькі ў вапошняй імпрэзе — парадзе.

Беларуская група ў ліку 15 чалавек, у гэтым дзеці й моладзь, у нацыянальнай вопратцы й з плякатам «Беларусь», трэйцяя за Шкотамі й Харватамі, а перад Латышамі, Славэнцамі, Палякамі, Украінцамі й іншымі, ішла ў паходзе.

На гэтым фактычна можна й скончыць. Але напрашваецца й дадатак. Чаму Беларусы прынялі ўдзел толькі ў парадзе? Чаму толькі 15? Чаму толькі Згуртаваньне Беларусаў у Вікторыі бярэ наагул удзел у вонкавых выступленьнях Беларусаў? А дзе іншыя, асабліва тыя, якія так шмат крычаць аб сваей беларускасьці? Трэба разам выступаць, разам паказвацца, а тады хутчэй нас пазнаюць і будуць шанаваць. Надзеімся, што другім разам беларуская група будзе большая й лепей зарэпрэзэнтуецца.

**М. Н.**

### АЎТАРСКІ ВЕЧАР У ТАРОНТА

У суботу вечарам 14-га красавіка сёлета Таронцкі Аддзел Згуртаваньня Беларусаў Канады зарганізаваў у Беларускім Рэлігійна-Грамадзкім Цэнтры аўтарскі вечар, прысьвечаны Канстанціну Акуле ў сувязі з выхадам у сьвет ягонай кніжкі «Змагарныя Дарогі». За багата застаўленымі сталамі засела шматлікая грамада сяброў і сяброўак. Уступнае слова сказаў старшыня ЗБК сп. Касьцюкевіч — адзін із спадарожнікаў па «змагарных дарогах». Аб значаньні й вартасьці кніжкі «Змагарныя Дарогі» гаварыў д-р В. Жук-Грышкевіч. Сам аўтар прачытаў два ўрыўкі із сваей кніжкі ды расказаў пра фінансавыя цяжкасьці ў сувязі з выданьнем кнігі, бо выдаў ён яе на собскі кошт.

Далей выказаліся іншыя сяброўкі й сябры: сп-ня Грыцук, сп. сп. Баран, Сільвановіч і Ганько. Усе прамоўцы падкрэсьлівалі вялікую вартасьць кнігі, якая так праўдзіва прадстаўляе падзеі ў Беларусі ў часе Другой сусьветнай вайны.

**Залешчанін**

## Канцэрт народных песьняў

Ведамая беларуская сьпявачка Вольга Ачыновіч (артыстычны псэўдонім Луко) наладзіла ў нядзелю 13-га мая сёлета ў Мюнхэне вялікі канцэрт народных песьняў — беларускіх, украінскіх і расейскіх. Перад вялізарнай Софіен-заляй, якая была перапоўненая рознанацыянальнай публікай, як эмігрантамі із Савецкага Саюзу, гэтак і Немцмаі, сп-ня Ачыновіч перажыла ўзапраўды вялікую артыстычную ўдачу.

Канцэрт з гледзішча нацыянальнай прыналежнасьці рэпэртуару дзяліўся на тры часткі: беларускую, украінскую й расейскую. Першай была частка беларуская, у якой артыстка прасьпявала наступныя беларускія народныя песьні: «Прыляцелі гусі», «Перапёлачка», «Бульба» й «Як памерла матулька». Усе гэтыя песьні гучэлі шчырым глыбокім лірызмам, здабываючы выканальніцы буру воплескаў. Голас сьпявачкі (колятурсапран), вельмі прэцызыйны, чысты й мілагучны, добра падходзіў якраз для народных песьняў. У кажнай нацыянальнай частцы артыстка выступала ў нацыянальным касьцюме дадзенага народу (беларускім, украінскім і расейскім), што прыдавала праграме больш размавітасьці й арыгінальнасьці.

Сп-ня Ачыновіч ёсьць сьведамай Беларускай родам з Бабруйска. Перад вайной студыявала даўжэйшы час у Менскай Музычнай Кансэрваторыі, а пачала выступаць на сцэне — у менскай беларускай опэры й радыё толькі з 1941 году. У 1944 г. у сувязі з прыбліжэньнем фронту, сп-ня Ачыновіч, як і многія іншыя Беларусы, выэміграваіа на Захад і жыве цяпер у Мюнхэне. Сп-ня Ачыновіч інтэнсыўна працуе ў артыстычным кірунку, выступаючы на многіх заходняэўрапэйскіх сцэнах.

Выказваючыся наагул пазытыўна аб канцэрце, нельга не зрабіць адначасна артыстцы й аднаго дакору. Артыстка змантавала сваю праграму так, што дала выразную перавагу расейскай песьні, якая заняла столькі месца, колькі беларускія й украінскія песьні ўзятыя разам. Таксама на біс артыстка сьпявала вылучна расейскія песьні. А з гледзішча на беларускасьць самой артысткі, было-б зусім натуральна, калі-б, заміж расейскім, была дадзеная такая-ж перавага песьням беларускім. Ня было-б яшчэ дзіўным, калі-б усе тры нацыянальныя аддзелы былі прадстаўленыя аднолькава. А так... Ды каму, напасьледак, патрэбны гэты камплекс ніжэйшасьці?

Да сьпеву сп-ні Ачыновіч акампаньявала ведамая ў Мюнхэне балалаечная аркестра пад кіраўніцтвам сп. Мікалая Бабкова. Апрача акампаньяманту, аркестра ў беларускім аддзеле выканала асобна «Беларускую суіту», зложаную зь вязанкі беларускіх народных мэлёдыяў. З прызнаньнем трэба адцеміць, што хаця балалаечны ансамбль сп. М. Бабкова паводля свайго характару зьяўляецца расейскім, ён у сваім рэпэртуары мае таксама беларускія й украінскія народныя мэлёдыі, якія ахвотна дэманструе на розных канцэртах і ў радыё.

**Р. С.**

# «Змагарныя дарогі»

Кагадзе выйшла з друку і ўжо прадаецца аповесьць К. Акулы «Змагарныя Дарогі». Выйшла яна вялікаю кнігаю ў мастацкай мяккай вокладцы й мае 583 бачыны. У ваповесьці апісаныя часы 2-ое Сусьветнае вайны (1941–45 г. г.), ад дзён, калі Беларусь апынулася пад гітлераўскай акупацыяй, аж да канца вайны. Аповесьць папярэджаная ўступным словам, напісаным др. С. Станкевічам.

Дзеліцца яна на колькі паасобных частак. Першую зь іх аўтар назваў «уводнай». У ёй падаюцца інфармацыі агульнага характару, прыкладам, адміністрацыйны падзел Беларусі пад нямецкай а[illegible]цыяй, беларускае тагачаснае школьніцтва, беларускія арганізацыі, культурнае жыцьцё, выдавецтва, прэса, гітлераўская палітыка вынішчэньня Беларусаў ды паліцыйныя й вайсковыя фармацыі, што складаліся з Палякаў, Расейцаў, Латышоў, Летувісаў, Украінцаў і Вугорцаў, якіх Немцы сьцягвалі на Беларусь, каб мець дапамогу ў трыманьні Беларусаў у належнай пакоры. Аўтар зусім справядліва схарактарызаваў іх, як злачынцаў, якія адыйгралі на Беларусі вельмі благую ролю, палячы беларускія вёскі й вынішчаючы жыхарства, ня горш за бальшавіцкіх партызанаў ці войскі СС, бо мелі перадусім наўвеце свае нацыянальныя мяркаваньні на будучыню. Падае ў сваёй кнізе аўтар і характарыстыку беларускіх збройных аддзелаў, як: дапаможнае паліцыі, Самааховы, Наваградзкага эскадрону, Чыгуначнага батальёну, беларускага Спэцыяльнага батальёну й Беларускае Краёвае Абароны (БКА). У гэтай-жа першай частцы свае аповесьці аўтар апісвае Беларускую Цэнтральную Раду (БЦР), ейнага прэзыдэнта Астроўскага ды іншых сяброў Рады. Канчаецца ўводная частка разьдзелам: «Колькі словаў аб галоўных злачынцах».

Пасьля «уводнай», аўтар пераходзіць да свае асноўнае аповесьці — эпапэі Беларускае Афіцэрскае Школы БКА. Эпапэя гэтая пачынаецца апісаньнем першае дэфіляды толькі што прыбылых з розных куткоў Беларусі маладых кадэтаў школы, якая адбылася 22-га чырвеня ў Менску. 29-га-ж чырвеня, у сувязі з эвакуацыяй Немцамі Менску, ахвіцэрская школа БКА вымашыравала пехатою зь Менску на захад. З гэтага моманту й пачынаюцца цяжкія дасьветчаньні нашых маладых вайскоўцаў, апісаныя аўтарам вельмі праўдзіва, маляўніча, а парою — зь вялікім трагізмам, прыкладам, крывавая ноч у Вільні, пераход часткі кадэтаў школы да францускіх партызанаў, баі ў Італіі й інш. Гэтая трагэдыя беларускіх юнакоў-патрыётаў зь сярэдняю асьветаю, што пайшлі ахвотнікамі ў беларускую ахвіцэрскую школу, каб здабыць вайсковыя веды, была перадусім у тым, што Немцы, наўсуперак волі беларускіх дзейнікаў, далучылі менскіх кадэтаў да рознанацыянальнае г. зв. 30-ае дывізіі СС пад камандаю нямецкага падпалкоўніка Зіглінга й накіравалі на захад, на змаганьне з саюзьнікамі, а не з варагамі беларускага народу, хоць маладыя беларускія патрыёты добра разумелі, што запраўднымі ворагамі Беларусі, зь якімі яны павінны былі-б уступіць у змаганьне, ёсьць камуністычная Расея й тая гітлераўская Нямеччына, якая вырашала іхны малады лёс. Таму трэба зразумець усю жахлівасьць палажэньня юнакоў-вайскоўцаў, каб належна ацаніць іхны пераход да саюзьнікаў пры першых-жа баёвых із імі сутычках. Ды й тут — доля была ім мачыхаю. Накіраваныя пасьлей у Італію, былыя беларускія кадэты былі ўлучаныя ў польскае войска й бралі, побач з Ангельцамі удзел у змаганьні супроць нямецкае арміі. Пасьля вайны галоўны герой аповесьці, што выступае ў ёй пад імём Сымона Спарыша, трапляе ў польскую ахвіцэрскую школу. Калі-ж, нарэшце, вайна канчаецца й выцалелыя пасьля яе былыя кадэты зь Менску дэмабілізуюцца й перавозяцца ў Ангельшчыну, толькі тут яны ўзноў прабуюць, і з добрай удачаю, стацца Беларусамі, закладаючы першую беларускую нацыянальную арганізацыю ў Вялікай Брытаніі, што дзеіць там і сяньня.

Падаючы эпапэю школы, аўтар «Змагарных Дарогаў» вельмі ўдала перапляляе яе напрацягу ўсяе кнігі важнейшымі падзеямі, што адбываліся тады сярод Беларусаў. Гэтак, ён апісвае дзейнасьць БЦР у Бэрліне, дачыненьні між ген. Езавітавам, Р. Асторўскім і палк. Шувалавам, дывізію «Беларусь» і ейны пераход да Амэрыканцаў, загубу ген. Езавітава ды інш.

Трагэдыя беларускае ахвіцэрскае школы БКА, апісаная аўтарам «Змагарных Дарогаў», ёсьць сымбалем трагэдыі і ўсяго беларускага народу ў тыя жахлівыя часы. Беларусы ня мелі свае собскае незалежнае дзяржавы, імі ня цікавіліся «моцныя» гэтага сьвету. Калі пачалося вялікае змаганьне народаў, Беларусь знайшлася між дзьвума нязвычайна нялюдзкімі супраціўнікамі — гітлераўскаю Нямеччынай і савецкай Расеяй. Гэтыя азьвярэлыя тытаны, змагаючыся міжсобку, зусім ня лічыліся з таптаным імі, бязьвінным беларускім народам. Стуль — столькі крыві й ахвяраў.

З боку літаратурнага аповесьць напісаная добра, мае лёгкі стыль і не стамляе чытача. Але найбольшая, хіба, вартасьць «Змагарных Дарогаў» у тым, што яна ёсьць тымчасам адзіным цяглым апісаньнем тых гістарычных падзеяў, якія адбываліся ў часе 2-ое Сусьветнае вайны на Беларусі й паза ейнымі межамі, але ў беларускай справе. Трэба прызнаць таксама, што сп. Акула ўлажыў у напісаньне «Змагарных Дарогаў» вялізарную працу. І кажны Беларус, ці былы вайсковы, ці цывільны, павінен гэтую кнігу купіць. Памінаючы ейны цікавы зьмест, набыцьцём «Змагарных Дарогаў» мы выкажам удзячнасьць аўтару за ягоную гэтак ахвярную й карысную працу.

**Ф. Кушаль**

### ВЫЯСЬНЕНЬНЕ

У папярэднім нумары мы зьмясьцілі артыкул Я. Станкевіча «Які мае быць парадак літараў беларускай абэцады». Некаторыя нашыя чытачы зразумелі, што такое-ж, як і Я. Станкевіча, становішча й «Бацькаўшчыны» й што яна, зьмяшчаючы гэты артыкул, прапагуе высунуты аўтарам праект парадку літараў у беларускім альфабэце. У сувязі з гэтым выясьняем, што Рэдакцыя ніякага ў гэтым пытаньні становішча не займала й што пагляды, выказаныя ў менаваным артыкуле, зьяўляецца індывідуальнымі паглядамі аўтара.

**Рэдакцыя**


### НАШЫЯ ПРАДСТАЎНІЦТВЫ

**АНГЕЛЬШЧЫНА:**
**Mr. Aleksander Laszuk,** 97 Moore Park Rd., London, S. W. 6.

**АЎСТРАЛІЯ:**
**Mr. A. Vasilenia,** 39 Edwin St., Croydon, N. S. W.
**Mr. A. Maroz,** 109 Morrison Rd., Midland Junction, W. A.
**Mr. M. Nikan,** 14 Steel St. Spotswood—Melbourne, Vic.
**Mr. W. Akavity,** 80 Tapley Hill Rd., Royal Park, S. A.

**БРАЗЫЛІЯ:**
**Mr. C. Cimafiejčyk,** Prasa 78 Tiridentes, Curitiba — Parana

**ЗАДЗІНОЧАНЫЯ ШТАТЫ:**
**Mrs. L. Bielenis,** 2042 W. St. Paul Ave., Chicago 47, Ill.
**Mr. B. Danilovich,** 303 Howard St., New Brunswick, N. J.
**Mr. Ul. Duniec,** 814 Brayton Ave. Cleveland 13, Ohio.

**КАНАДА:**
**Mr. K. Akula,** 57 Riverdale Ave Toronto 6, Ont.

**ФРАНЦЫЯ:**
**Union des Travailleurs Biélorussiens en France, 26, rue de Montholon,** Paris 9.
**Mr. W. Kasztelan,** 33 rue Kleber Mouvaux (Nord).

БАЦЬКАЎШЧЫНА

**Беларускі тыднёвік палітыкі, культуры і грамадзкага жыцьця.**

**Выдавец: Уладзімер Бортнік**

**РЭДАГУЕ КАЛЕГІЯ**

**Артыкулы, падпісаныя прозьвішчам або ініцыяламі аўтара, не заўсёды выражаюць пагляды Рэдакцыі. Незамоўленыя рукапісы назад не зварочваюцца. Рэдакцыя адказвае на лісты толькі пасьля далучэньня паштовае маркі або міжнароднага паштовага купону.**